**Цана аднаго № 35 гр.**

**№ 1.** **Серада, 31 Сьнежня 1924 г.** **Год 1.**

# АВАДЗЕНЬ

ДВАТЫДНЁВІК КРЫТЫКІ, ЖАРТАЎ і СЬМЕХУ.

| Адрес рэдакцыі і адміністрацыі: | ПАДПІСКА: |
| --- | --- |
| **Wilno, ul. Zawalna 7, przy księgarni.** | З достаўкой да хаты: на 3 мес. . 1.80<br>За граніцу удвая даражэй. |



## Школьная справа.




Хто хутчэй скране з мейсца, „Прасьвета", ці Цэнтральная Рада?

## Замест прадмовы.

Гэй, ляці-ж ты „Авадзень“
Як-бы тыя гусі,
Ляці ночаю і ў дзень
Па ўсей Беларусі!

Ляці горамі, праз бор!
Няхай сілы хваце
Заляцець у кожны двор
Быць у кожнай хаце!

Вясялі усіх што дня
Будзь-жа на пацеху,
Каб знаў кожны „Авадня“
З крытыкі і сьмеху!

*Цярплівы.*

* * *

Сьцяпанькі, Грышкі, Зьмітракі
Ды маладые й старыкі!
Каб вам душу падвесяліць
Да вас вось „Авадзень“ ляціць!

Ен абяздоленных пацешыць
Тых, хто сумуе, ён разсьмешыць,
А хто з яго захочэ кпіць,
Таго патрапіць укусіць.

*Ян—сон.*

## На чым зыйшліся.

(Падслуханая гаворка праўдзівых беларусаў).

Апалячэны: — Ведаёце, паночку шаноўны, здаецца бэньдзе выходзіць у Вільні „Оваддзень“.

Абмаскалены: — Ошыбаетесь, ведаеце дорогой: назвецца журнал тот „Оводнём“ кажецца.

Апалячэны: — Ведаеце, зацісалэм назвіско, — враз знайду... А... вось... Ні „овад“-дзень, ні „оводнем“, а проста бэньдзе звацца „Авадзень“.

Абмаскалены: — Харошый тітул, ведаете-лі. — Добра назва ведама.

## Павестка.

Служака. — Паночку, павестку прынясьлі.

Пан. — З почты! На грошы? — давай сюды?

Служака. — Не, на суд завуць...

Пан. — Праваліся ты з павесткай разам! толькі адрываеш ад работы!

## Характэрнае слова.

— Па чым, Антон Пранцавіч, магчыма пазнаць беларусаў?

— Як толькі, што-слова, кажэ „ведаеце“, дык гэта ўжо беларус.

## Дзіўная сямейка.

— Скажэце, пане Панцялей, як вам жывецца бяз гаспадаркі? Здаецца-ж ніякага занятку не маеце? Хіба запасьлі ўсяго з жонкай на зіму?

— Не, нічога не маем.

— Ну а як з адзежай і абуткам?

— Дзеля аканоміі ходзім з жонкаю ў хаце гола і боса...

— Гм... а як дзеці?

— І дзеці так сама.

## У гасьцёх.

Гаспадар. — Проша закусіць, калі ласка!

Госьць. — Тады дайця мне відэльцы.

Гаспадар. — А вось, пры цукерніцы вольныя ляжаць.

Госьць. — А я думаў, што яны пакладзены дзеля насыпаньня цукру...

## Ня дзіва!

— Ты чуў, што графалог Варшаўскі дакляруе па почэрку апісаць характар чалавека, пройшлае, цяперашняе і прыйшлае?..

— Ну, гэта я чуў.

— А зачым ён просіць, каб пішучы да яго, паведамляць аб тым, калі радзіўся, колькі сям'і, ці жывы бацькі і шмат іншых інфармацый патрабуе?

— А бачыш, браце: як ты напішаш яму аб табе самім падрабязна, дык ня дзіва, што ён табе, так сама падрабязна, з гатовага, адкажа.

## З каапэрацыі.

Першы — Ну, што, каго-ж выбралі?

Другі — Тых самых?

Першы — Значыцца і парадкі будуць тые самые.

## У судзе.

— Гэта ты ўкраў сасну з лесу?

— Зусім не я, Ваше-скародіе; — я шчыра прызнаюся вам як было: ехаў я праз лес і *вось* мая зачапілася за дрэва, а тая дай ды зламалася і бразь на воз. Што было рабіць!? Дрэва цяжкое, —я адзін ня скінў, ну і зацягнуў да хаты.

(„Беларус“).

# Віншуем паважаных чытачоу з Новым Годам!

## Ці будзе часаці...

Стаіць кацап з грэбенямі
Патлі закідае;
Каля яго маладзіца
Грэбень выбірае.

Выбірае, дый пытае:
„А каштуе ён ці многа“
— „Грівенічек, галубушка!
Дешево—с, ей Богу!“...

„А ці ж будзе ён часаць?“
— „Ах ты, мая маці!
Да родітесь только вошi,—
Уж будет чесаці!...“

## Халодна.

Сядзіць голы цыганчук
Без мала не плачэ
— „Тата!—кажэ:—халодна!
Зуб да зуба скачэ“!

А той дае паясок:
„Вось на: адвяжыся!
Калі табе халодна
Дык падпяражыся“.

## Зяленая сабака.

Зайшоў немяц раз на баль,
З паненкай сядае,
Маўчаў, маўчаў, далей раптам
Суседку пытае:

„Зяленага сабаку
Пані спатыкала?
— „Ды не,—кажэ,—а чаму?“
Немца запытала.

„Ды нічога,—кажэ той,—
Я так запытаўся,
Бо з зяленым сабакаю
Я не спатыкаўся!“

*Ш—а.*

## На рынку.

— Што табе, даць за пеўня, маладзіца?

— Я яго не пралаю.

— Дык чаго ты з ім да места прывалаклася?

— Панясу да часовага майстры. Нешта сапсаваўся: пяе на гадзіны 3 раней чымся трэба.

## У вагоні.

(Падарожны едзе з Расеі).

Паліцыянт — Паньскі довуд?
Падарожны — Я не Довід, а Іцка!
Паліцыянт—грамчэй — Панскі довуд!
Падарожны — Удівітельны чалавек! Ешчо раз я вам гавару, што я не Довід, а Іцка!
Суседка — Яму трэба паспорт.
Паліцыянт — Паспорт, альбо довуд, то вшыстко едно.
Падарожкы — А... Другое дзело! Пожалуйста, вот вам паспорт!

## Усё дае лекцыі.

— Дзень добры пані!

— Добры дзень! Ці не спаткалі вы майго мужа?

— А як-жа! Нат словам не здалеў перакінуцца з ім. — Завярнуў на панадворак; учора так сама.

— Гэта, паночку ён усё дае лекцыі.

— Дык ціж па ўсей Вільні ён дае лекцыі? Учора спаткаўся з ім на Субачы, — ён адразу на панадворак; пазаўчора, на Зарэччы — так сама; гэтые дні, дзе яго ні спаткаеш бяжыць на бліжэйшый панадворак.

— Ага — тут іншая прычына, паночку: ён хварее брухам і... прыймае на развальненьне...

— А! А я думаў ён усё дае лекцыі!

## Нашы знамянітасьці.

— Хто там у вас за сьценкаю гудзіць на ўсякія лады, часам аж хапае за душу...

— Гэта вядомы наш кампазытар; ён дзень і ноч, то гудзіць, то енчыць, раджаючы Безарусам незвычайнае выданьне ў „Сто песьняў“.

В—ій.

### Што каму.



Ен. — Дазволь жа мне, мая ты рыбка, хоць раз цябе пацалаваць.

Яна. — Ідзі ідзі, старая піпка! Пара табе даўно ўжо спаць.

Ен. — Хоць стары я, але багаты душой і сэрцам ля цябе.

Яна. — Ды на кішэнь ты скупаватый... Вось к сьвяту што купіў ты мне?

### Знайшлі раду.



— Куды вы гэта, пане Базылі?

— Да канцэлярыі.

— А шчоткі нашто пад пахай?

— А вось гляньця як ён пылам абдае, дык чышчуся прышоўшы прад занятткамі.

— А... і я дзеля гэтага самага надзела лапленую спадніцу...

## На берагу.

Ксёндз, ходзючы з ксёнжкай па берагу ракі, наткнуўся на голую жанчыну, якой толькі ўчора сам шлюб даваў.

Ад раптоўнасьці выпусьціў з рук ксёнжку, абслупеў і, ня веручы сваім вачам, задыхаючыся прагаварыў:

— Ты ўжо голая? А дзеж твая вопратка вясельная, у якой учора перада мной з жаніхом стаяла?

— Мыю вось яе, айцец духоўны.

(*„Восіап“*).

## „Цымус“ са старых друкаў.

### Шчырая.

— Штоб ты, Антоля, зрабіла, каб я цябе пацалаваў?

— Крычала-б: мама! мама!

— Ну, а тады што-б было?

— Нічога, бо нікога ў хаце німа.

### Добра адказаў.

Адзін сын служыў у салдатах. Пачалася вайна. Сын да бацькі пішэ з вайны і просіць прыслаць грошы, бо яму адстрэлілі нагу і ён ляжыць хворый у лазарэці.

Бацька адпісывае:

„ Дарагі сынок! Гэта ўжо чацьвёртая нага, што табе адстрэлілі на вайне. Шкода цябе, але грошы ў мяне німа ўжо. Пастарайся вылезьці на апошніх нагах, што ў цябе засталіся, на добрую дарогу.

Твой бацька“,

# Чым бы ня печыуся — абы вылечыуся...

(абразок у адным акце).

1. БАЦЬКА, кульгавы нізкі г. 60.
2. МАТКА, высокая прыгожая г. 45.
3. СЫН ЮЛЮК, лянівый г. 20.
4. СЫН АНДРЕЙКА, хваравіты г. 16.
5. ДАЧКА ВЭРОНІКА, нізкая круглая г. 22.
6. ЗЯЦЬ АНТОСЬ, гарадзкі г. 30.
7. ХВЕРШАЛ, г. 35, спрытны, вусы чорные, у верх, пэнснэ дзеля „фасону".

Хвальварковая хата.

ЗЬЯВА I.

(Бацька, матка, Вэроніка, Антось і Андрэйка пры стале пьюць гарбату апрочь Андрэйкі, якому бруха баліць).

Матка. — Андрэйка, сынок мой! Што табе баліць.

Андрэйка. — Бруха. мамачка...

Матка (да Юлюка). — Зьбегай, каток да хвершала! Ен цяпер у Рыгорыхі гасьціць.

Юлюк (кісла). — Ну і што будзе, як зьбегаю?

Матка. — Папрасі яго сюды, скажы што бруха баліць Андрэйку — можэ паможэ.

(Андрэйка стогне выходзіць зза столу і кладзецца на ложку).

Матка. (падхозіць і гладзіць яго) — Бедны ты, мой каласок! а можа ты хлеба з масілцам, ці бліноў, ці кісяльку зьеў ба?

Андрэйка. — Нічога ня трэба мне... апроч доктара.

Матка (да Юлюка). — Зьбегай сынок бордзенька!

(Юлюк як бы ня чуе — сёрбае гарбату).

Бацька (сярдзіта). — Ты чуў што табе матка кажэ?

Юлюк — Січас! (Сядзіць).

Бацька — (хапае рамень; замахваецца) — Я табе паслухмянасьці дам!

Юлюк — Ну чаго вы разыйшліся, іду ужо! (выходзіць).

(Антось шэпчэ штосьці Вэроніцы, абое сьмяюцца, бацька бярэцца латаць валенцы, Андрэйка стогне).

Антось. — Я радзіў бы, мамка, ад сябе, палажыць кампрэс гарачый на бруха Андрэйку, а?

Матка. — Яно мо і добра-б было, зяцёк, алі лепей няхай хвершал.

(Стук у дзьверы — бацька адчыняе).

ЗЬЯВА II.

Усе і хвершал.

ХВЕРШАЛ (вясёла). — Дзень добры паном! (Стаўляе кіёк ля дзьвярэй, брыль кідае на шафку і шукае вачмі хворага) — Вось гэта мусіць той хворый брухам?!

Матка. — Так паночку!

ХВЕРШАЛ (абглядае як трэба, усе глядзяць з сваіх мейсцаў). — Ага добра! Гэта хвароба мне вядомая (рашуча) — Дайця паперы і атрамэнту! (садзіцца за стол, тарабане пальцамі).

Матка — А можа, лепей, паночку, кавы выпілі-б? (шчупае гляк) — Яшче вось нізусім абстыгла.

Хвершал — Дзякую, ня трэба; паперы і атрамэнту хутчэй.

(Усе, апроч бацькі, бегаюць шукаючы)

Матка (да Вэронікі) — Здаецца на вакне была калісь бутэлька з атраментам!

Вэроніка. — Я, мамачка, яе вон выкінула, бо мух поўна было натапіўшысі.

Матка — Божа, мой Божа! што-ж рабіць цяпер?!

Зяць — (знаходзіць пяро у абсадцы і дае хвершалу кажучы голосна усім).

— Абсадку з пяром знайшоў-ткі!

Матка — (хвершалу) — Выбачця, паночку, алі атрамэнту німа!

Антось (подае алавок) — Тады проша пісаць гэтым...

Вэроніка (падае паперу). Вось на гэтым...

Хвершал (пішэ і надаючы рэцэпт матцы) — Па гэтай паперцы дастаньця лякарства у аптэцы і давайця хвораму (з націскам) *тры разы у дзень па лыжцы!*

Бацька (міргае на матку, да хвершала). — Дык будзьця добры хоць кубак кавы хлібнуць...

Хвершал — Не, дзякую!

Бацька (дае грошы, у дзьвярох). — Выбачця паночку!

Хвершал — (выходзючы) — Нічога, нічога (зза дзьвярэй). Дык *тры разы у дзень па лыжцы*! запамятайця сабе! Бывайця здаровы!

Матка (да мужа) — Колькі ты яму грошы усунуў?

Бацька — Колькі даў, столькі і добра.

Матка — Ну сколькі?

Бацька — тры пятакі.

Матка — (складае рукі) — Ай, ай! ці-ж ты ашалеў?

Антось—Мамачка, плюньця на гэтые грошы, не шкадуйця, абы Андрэйку лепей было.

Матка — (абдумаўшыся) — Ага так, так! Дай Божачка, Матка Найсьвеншая!

Зяць з Вэронікай надзяюцца — Пойдзім пагуляць троху! (выходзюць).

Бацька (кідаючы валенцы на бок) — Пайду зірнуць на гаспадарку! (выходзіць).

Матка — (шукае у шафцы, выстаўляючы, што магчыма на падлогу — да Юлюка)

— Дык, сынок, пойдзішь за лякарствам?... Я табе бутэлічку знайду.

Юлюк — (капрызна) — Ай, ні пайду!

Матка — Зачым?

Юлюк — Бо надта далёка, ды і нага нешта баліць.

Матка — Сынок мой, паслухай мяне, во і бутэлька ёсьць (задуманна) алі... алі з нейкім лякарствам... (падае Юлюку) — Прачытай, сынок, што тутака напісана..

Андрэйка — Ай ратуйця, мамочка, бо памру мусіць! Ай, баліць!

Юлюк — (чытае голасна, што раз, то сам болі цікавіцца і упіваецца вачамі у бутэльку)... тры разы.. у дзень... па... лыжцы... (скачэ ад радасьці) — Ну мамачка! Маё шчасьця! во і ня трэба ісьці мне... лякарства ёсьць!

Матка — (глядзіць на сьвет, нюхае) — можа і добрае, бо нічым не аддае... (Андрэйка стогне).

Юлюк — Дай, мамачка, яму хутчэй лякарства гэтаго — хай ня мучыцца!

Матка (недаверчыва) — Дык праўда, што на бутэльцы гэдак напісана, як і на рацэпці?

Юлюк — Яй-Богу, мамачка, ня лгу!

Матка (рашуча) — Ну, дай жа Божа у добрую мінуту! (да Андрэйкі) Выпій, каток мой, лякарства!

Андрэйка — Ай.. баліць.. мне баліць...

Матка да (Юлюка) — Дай лыжку!

Юлюк (подае, — налівающь лякарства).

Матка — Ну выпій, каток ты мой, маё золатца!

Андрэйка (моршчыцца) — Можа горкае надта?

Матка — Не даражэнькі мой, салодкая; адразу хлібні і будзеш здаровенькі...

Юлюк — Хлібні браток адразу!

Матка, Юлюк (разам) — Хлібні скорынька!

Андрэйка хлібае, раптам устае ды бягом на двор—за ім Юлюк.. У дзьвярох зьбіваюць бацьку з ног, той хапаецца за дзягу—мальцы выбегаюць.

### ЗЬЯВА III.

Матка і бацька.

Бацька (сярдзіта) — Ах каб іх агні! (да маткі) што з імі зробілася?

Матка (сашчапіўшы рукі, спужаўшыся) — Божачка мілы! Матачка Найсьвеншая абарані нас ад нішчасьця. Ці ні атруты мы яму улілі?

Бацька — Ашалелі! (падходзіць да столу бярэ бутэльку) — Каму гэта бутэлька была патрэбна? (Убегаюць мальцы вясёлые, хахочуць — матка обымае Андрэйку).

### ЗЬЯВА IV.

Тые самые і мальцы.

Бацька (сярдзіта) — Каму гэта бутэлька была патрэбна?

Матка — А гэтаж таго лякарства далі Андрэйку і вось, дзякуй Божачку, лепей.

Бацька (насьмешліва) — Ну ці ёсьць у вас розум! Гэта бутэлька была *калісь* з лякарством, а цяпер вы далі яму выпіць ведаеця чаго?

Матка — Не, ня ведаем...

Юлюк — Ну, а што там?

Бацька — Ворвалю жыд учора мне наліў сюды, бо трэба было на боты. Вось ворвалю вы Андрэйку і далі, значыцца, дурні! (да Андрэйкі) — А ты і выпіў бедны?

Андрэйка — Мяне сарвало адразу, татачка!

Матка (задуманна) — Мне здаецца, чым бы ня лечыўся, абы вылечыўся.

Юлюк — І мне так здаецца. апроч таго за лякарствам ходзіць далёка ды і нага баліць...

Бацька — (аддае бутэльку матцы) — Калі так, дык схавайця да другога разу... Гэта праўда што „чым ба ня лечыўся, абы вылечыўся“...

*А. В.*



## Госьць чудак.

Да Вярлыгі прыехаў сьвятым днём Агрызак Трапіў якраз на абед. За сталом, у цеснай хатцы, сядзелі бацька, матка, зяць з жонкай і шасьцёра дзяцей—школьнікаў.

— А, якраз на абед! Пахвалёны!

— На векі векуф! Адкуль гэта? Вось неспадзевана... Проша за стол! — узрадаваўся Вярлыга і ўстаўшы вітаў гасьця, — васпаня талерку запасную дзеля яго нясі! — зьвярнуўся ён да жонкі.

— Не, з талеркі ня буду! — казаў Агрызак (ён быў чудак) — Дайця мне кварту з млекам і пусьціця мяне як гасьця, у асяродак кумпаніі, на самы кут!

Усе зрушыліся з мейсца, павыхадзілі, запрашаючы сесьці ў цэнтры пана Агрызку.

Неўзабаве ўсе сядзелі на мейсцы.

Госьць меў прад сабой кварту з млекам.

Зачалі есьці.

Ен дастаў з гразнай торбачкі сялёдку ды галавой усадзіў яе да млека.

Усе разінулі раты, вачмі пулялі, — „Ці ня ашалеў ён", — кожнаму было на мыслі „Сяледку з млекам"!?

— Хай памокне, — казаў Агрызак, — а я паведаю вам аб адным здарэньні, толькі слухайце!

Усе хлібалі страву, бо былі галоднымі, алі стрыглі вушамі, Агрызак пачаў:

— Гэтымі днямі заўважыў я, што нехта крадзе з дрэва яблыкі ў маім садзе; брахаў сабака адну ноч, брахаў другую...

Учора падрыхтаваў я стрэльбу і з начы залёг... Проста на зямлю... Залёг.. вось пусьціце, я вам пакажу, як гэта было...

Ня хочучы адрывацца ад яды ўсе запярэчылі.

— Ведаем! Ня трэба!

— Мы ведаем што ляжалі, а далей што было? — адазвалася матка.

— Не, гаспадынька, трэба каб бачылі як было... вось.. пусьціця хутчэй... пакажу!

Нездаволена ўсе павылезалі зза столу і сталі чэкаць.

Агрызак лег на падлогу і паказуючы, як што было, казаў:

— Раптоўна я пачуў як нехта пачаў, браткі, яблыкі абіраць. Стральбой, набітаю гарохам, пацэліў я зладзею ў ногі і бахнаў...

„Ай, яй, яй!" — заяўкаў нехта водаль ды уцякаць... Я за ім... вось гэдак, браткі... (пры гэтых словах Агрызак кінуўся бегчы, Вярлыга яго ўстрымаў).

— Ну, досыць, васпану чудачыць, сядайце ўжо есьці, вось усе чэкаюць!

— А мо да канца паслухаеце, як што было?

— Не, не, досыць! — усе казалі.

Агрызак спакойна заняў сваё мейсца і сьмяючыся пачаў грысьці сялёдку, запіваючы яе млекам.

Дзіка пуляла на яго вачмі сямейка Вярлыгі
Самую гаспадыню ледзь не сарвала...
Ен толькі пад вусамі з іх ўсіх сьмяўся.
Быў чудак!

*А. В.*

## Каму што...

(Паміж мужчынаў).

**Першы:** — Што вам найболей падабаецца у паненак?

**Другі:** — Я люблю прыгожые вочкі, насок прыгожы, невялічкі і поўненькіе ружовые вусны.

**Трэці:** — А мне найлепей, калі жанчына, ці дзяўчынка, мае вузкіе плечкі, а крыжавіну шырокую.

**Першы:** — Гм.. Я углядаюся толькі на сярэдзіну.

**Чацьвёрты:** — А мне толькі лыткі у прыгожых панчошках.

(Паміж паненак).

**Першая:** — Якога ты больш упадабала?

**Другая:** — Вун таго, з доўгім носам і бародкай.

**Першая:** — А мне смакуе толькі той, брыты, з кароткім носам і пустой галавой, але з поўнымі кішэнямі.

## Арыгінал.

Абвешчаны быў конкурс на літэратурныя творы; за найлепшые дакляравана было 3 прэміі грашавых.

Да камісіі, якая агаласіла конкурс, зьявілася адна знамянітая асоба.

— Маё вам!.. Я прынёс твор на конкурс.

— Дужа рады...

— Аддам яго вам пад тым варункам, калі, ў шчот прэміі, дасьцё мне цяпер палавіну грошаў.

— Дык выбачце, надходзіць шмат твораў атусюль, яще невядома каму прэмія выпадзе...

— Ну дык тады я сваей працы вам не астаўлю — бывайце!

Добры спосаб.



— Часта нешта ясі абаранкі.

— А вось на шчасьця трапіў; анэгды у вадным абаранку знайшоў чэрвяка, дык пекар дарма цяпер колькі дзён карміць, каб толькі нікому аб знаходцы ні казаў.

К-ва „Еканомія“.



**Члены рады:**

Першы: Калі ні прыходзім, усё наша „Еканомія“ зачынена.

Другій: Відочна скляповы з прэзэсам „эканомюць“ сваей працай, а сябры—грашмі.

## СВАЯ ПОЧТА.

Перадплату на „Авадня“ атрымалі: ад Гаворкі: — 1 зл.; ад Спудрыса, Барэйшы, Гаўрылюка, Буйко, Я. Васілеўскага, Чэрніка, Грышкевіча са Смаргоняў, М. Марцінчыка, Лазарова, Раманцэва, Шыкевіча с пад Глыбокага, К. Лабунькі і ад А. Пухальскай — па 1 зл. 80 гр.; па 2 зл. ад Грынюка, Мурашкі, Васютовіча; з зл. 60 гр. ад. кс. Оношко; 4 зл. ад Маркевіча з Вільні, па 10 зл. ад А. Будзькі, С. Станкевіча і Гапановіча; на колькі адрэсаў ад Мятлы 20 зл.

Рэдакцыя шчыра дзякуе за прысланую перадплату і далей прыймае падпіску і матэрьялы якія-б падхадзілі да „Авадня“.

Худ. Я. Драздовіча просім аб карыкатуры і сьмешные рысункі.

**БРАТЫ і СЯСТРЫЦЫ!**

Першы блін часта выходзіць комам, — гэдак і з нашым „АВАДНЕМ“. — Далей будзе лепей.

Рэдактар-Выдавец А. ВАСІЛЕУСКІ.

Rys. Lit. Łaskowa Wilno, Subocz. Druk Spółdz. wytw. w Wilnie, ul. Gdańska 3.